На прастор, на шырокі разлог
Выхадзі, мой народ, грамадою...
Якуб Колас

№ 51 (633)
Аўторак, 23 сакавіка 1999 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай і рускай мовах
Перыядычнасць — 5 разоў у тыдзень
Кошт: у кіёсках і крамах — 10000 руб., у індывідуальных гандляроў — свабодны.

# Народная Воля



# Европейский Парламент призывает президента Лукашенко и правительство Беларуси восстановить демократию и обеспечить соблюдение прав человека в Беларуси, особенно – свободу средств массовой информации.

**Письмо простого человека**

## Нас разъединила бедность, а не "беловежские зубры"

Уважаемая редакция!

Желаю успехов в Вашей благородной деятельности. Позвольте поделиться с Вами некоторыми своими мыслями.

...Встретив перед Новым годом соседа дядю Гришу, я понял: у него большая радость.

— Сережа, вы слышали? Нас опять объединяют. Спасибо Александру Григорьевичу и Борису Николаевичу.

Он начал вспоминать, как хорошо было во времена СССР, что у него в Ростове сестра, тоже пенсионерка, с которой после распада Союза они виделись только раз. Он очень надеялся на скорое объединение двух стран и восстановление прежних связей.

А мне стало грустно. Вспомнилось, как мать уже несколько лет собирается навестить могилы родных и друзей в Могилеве и Москве. И не может, нет денег. Я вспомнил, как дети целый год мечтали съездить к бабушке, живущей в другом конце Беларуси. И не съездили. Вспомнил, как мой коллега огорчался, что не был в родном Светлогорске уже 2 года. И все из-за этих проклятых денег.

Тех, кому еще по карману, выручают телефон и почта. Пока. Услуги связи дорожают с каждым днем. И перспектива грустная и, похоже, неотвратимая. Перспектива одиночества, изоляции в своем городе или селе, а может, и в стенах своего жилища.

Один мой приятель, ныне гражданин США, как-то рассказывал, что часто гостит у брата в Австралии и у дяди в Канаде, что возможность беспрепятственно путешествовать ему дает труд в условиях здоровой, стабильной экономики. Я по-доброму завидую ему. Мы уже стали узниками у себя дома, заложниками бредовых экономических идей и экспериментов. Всех нас разъединила бедность. Разъединила даже внутри своей страны.

Может ли изменить сложившуюся ситуацию объединение нищих России и Беларуси? Да. Но только к худшему. Впрочем, возможно ли вообще само объединение? Ведь обе страны — осколки распавшейся империи. В XXI веке империям места не будет. Обсуждаемое объединение — это мертворожденный уродец в проекте, которому никогда не ожить. Но он способен безобразием своим ужаснуть мир. Объединение нужно как воздух не народам, а амбициозным политикам, стремящимся во что бы то ни стало скрыть истинное состояние всех сфер жизни двух государств и его причины. К тому же оба политика — и Ельцин, и Лукашенко — мечтают о троне в "новом государстве".

Минусы объединения очевидны уже сейчас. Растет раскол внутри общества. Отчетливее обнаруживаются центробежные тенденции среди субъектов Российской Федерации, которые вряд ли согласятся с особым статусом Беларуси. Для нашей Беларуси видятся просто катастрофические последствия, особенно для ее государственности, национальной культуры.

Безусловно, дружеские и добрососедские отношения между странами должны крепнуть. Основой для этого должны стать взаимоуважение к суверенитету друг друга и серьезные экономические и демократические преобразования. И тогда мы сможем свободно путешествовать не только по своей стране. Нам откроются двери в цивилизованный мир, где мы себя будем чувствовать, как дома.

**Сергей СОЛОПИЙ.**

*Гомель.*

**Стоп-кадр**



Небывалая веснавая паводка не абмінула і вёску Пагост Жыткавіцкага раёна. А дом бабулі Фядоры і зусім акружаны вадой, не выбрацца за дзверы. Ды 90-гадовую жанчыну не пакінулі ў бядзе суседзі. Нейкім чынам дабіраецца да адрэзанай ад свету хаціны аднавяскоўвец Васіль Раманоўскі, прыносіць бабулі ежу, дапамагае, чым можа.

— Дзякуй вам, добрыя людзі! — кажа старая.

**Фота IREX/ProMedia.**

**Як жывеш, глыбінка?**

## Бабруйскія перакосы

*Я правёў у Бабруйску толькі адзін дзень. Безумоўна, гэта вельмі мала, каб пазнаёміцца з тутэйшым жыццём. Тым не менш некаторыя штрыхі проста ўразілі. Аб іх і хочацца расказаць.*

### Запусценне...

Ідзеш па горадзе ў раёне рынку, і такое ўражанне, нібы ён толькі што вызвалены пасля шматмесячнай акупацыі. Сцены аблуплены, на вуліцы — калдобіны і бруд, і... нават стаіць будынак без вокнаў і даху. Ну як пасля бамбёжкі. На вакзале Беразіна, відаць, няма туалета, бо яго не адшукаць, і снег ва ўсіх закавулках "распісаны" вядомымі ў такіх выпадках узорамі. Словам, запусценне...

### Можна лёгка спазніцца на поезд

Кепска ходзіць транспарт. З Бабруйска да Мінска я ехаў поездам дзве гадзіны дваццаць пяць хвілін. А з цэнтра Бабруйска да вакзала дабіраўся гадзіну пятнаццаць хвілін. З іх каля гадзіны прастаяў на прыпынку, чакаючы аўтобус №11. Толькі ён адзін і ходзіць туды. І каб не спазніцца на поезд, варта загадзя выбірацца з цэнтра горада.

### Куды глядзіць міліцыя

Каля вакзала двое білі мужчыну. Жорстка. Чалавек у гадах упаў, і адзін з хуліганаў з усяе сілы біў яго нагой па галаве — у нос, вока... Метрах у трыццаці стаялі трое міліцыянтаў і спакойна пазіралі на збіццё чалавека. Пабіты ўпаў тварам у снег і нерухома ляжаў, і толькі пасля гэтага адзін з міліцыянераў рушыў сюды. Хуліганы ту ж а селі ў машыну і паехалі міма міліцыянераў. Тыя нават не спрабавалі іх спыніць.

Пабіты ўзняўся. Увесь твар быў у крыві. Пагойдваючыся, ён падышоў да машыны і сеў у яе. Міліцыянер зірнуў на яго і скіраваў хаду ў будынак вакзала.

— І нашто нам такая міліцыя? — абуралася жанчына на прыпынку. — За чым жа яна сочыць?

### Жыццё высмейвае сацыёлагаў

Такую думку я пачуў ад зборшчыкаў подпісаў за кандыдатаў у прэзідэнты. Дарэчы, з іх слоў гэта справа вядзецца даволі актыўна, многія ўжо сабралі па дзве тысячы подпісаў. Ну дык вось, калі чытаеш вынікі сацыялагічных апытанняў, дык атрымліваецца, што найбольшай папулярнасцю карыстаецца прэзідэнт, а за лідэраў апазіцыі нібыта гатовы галасаваць адзін-два працэнты. Між тым людзі, якія абышлі тысячы кватэр, гавораць зусім іншае. Яны сведчаць, што ў падтрымку прэзідэнта выказваецца тры-пяць працэнтаў людзей, не болей. А вось за Пазьняка ахвотна падпісваецца кожны дзесяты. Цікава, што актыўней ставяць подпісы жанчыны. Зборшчыкі подпісаў сведчаць, што амаль паўсюдна людзі ведаюць пра выбары прэзідэнта 16 мая. Асноўная маса пакуль займае "выжидательную" пазіцыю. Пры гэтым многія з іх гавораць, што калі пачнуцца выбары, дык яны прымуць удзел!

### Рыжскі поезд

З-за аўтобуса я спазніўся на бліжэйшы поезд. Гадзіны і дзесяці хвілін мне не хапіла, каб дабрацца з цэнтра Бабруйска да вакзала. Калі б пайшоў пешшу, дык паспеў бы.

Словам, прыйшлося ехаць наступным, Гомель — Рыга. Ён амаль у тры разы даражэйшы, але я не шкадую, што трапіў у гэты латвійскі поезд. Ён моцна ўразіў мяне і прымусіў аб многім падумаць, найперш аб тым, як усё-такі далёка наперад пайшла Латвія. Наш лепшы поезд адрозніваецца ад гэтага — як зямля ад неба. У такім поездзе я ехаў раней у Германіі. Агульны вагон тут нагадвае тэатр. Крэслы мяккія, як у самалёце. Можна свабодна выцягнуць ногі, не ўпіраючыся ў крэсла, якое ўперадзе. На праходзе і паміж крэсламі — дываны, на сценах — карціны, а пад носам — тэлевізар. Іх некалькі ў вагоне. Паглядзеў цікавы баявік, пачалася вясёлая камедыя, і тут ужо Мінскі вакзал. Нават пашкадаваў, што так хутка прыехаў і не паспеў даглядзець фільм. Пры ўваходзе і выхадзе з вагона — шырокі хол, дзе гардэроб... Словам, Еўропа. Калі яна прыйдзе і да нас?

### Два шляхі

Вось гэта сустрэча — з латвійскім поездам і бабруйскім вакзалам з брудам і без туалета — не можа не ўражваць. Бо яна сведчыць аб двух шляхах, якімі пайшлі дзве суседнія краіны — Латвія і Беларусь. Куды вядуць гэтыя шляхі, яскрава бачна па рыжскім поездзе і бабруйскім вакзале.

**Алесь ДРАБЧУК.**

## Прафсаюз гатоў да пікетавання Мінпрама

Зрыў перагавораў па заключэнні галіновага тарыфнага пагаднення на гэты год паміж Міністэрствам прамысловасці, аб'яднаннем наймальнікаў і рэспубліканскім саветам Беларускага прафсаюза работнікаў аўтамабільнага і сельскагаспадарчага машынабудавання (БПАСМ) можа падштурхнуць працоўныя калектывы да арганізаваных акцый пратэсту. Аб гэтым заявіў карэспандэнту БелТА намеснік старшыні галіновага прафсаюза Аляксандр Еўдакімчык.

Прафсаюз патрабуе забяспечыць павышэнне ўзроўню сярэднямесячнай заработнай платы ў галіне да канца першага паўгоддзя не менш чым на 135 працэнтаў ад мінімальнага спажывецкага бюджэту, праводзіць індэксацыю зарплаты работнікаў у памеры, не ніжэйшым чым у бюджэтнай сферы, а таксама ўстанавіць мінімальныя гарантыі па аплаце працы. Пісьмо з гэтымі прапановамі накіравана міністру прамысловасці. І калі да канца сакавіка не будзе атрыманы адказ, то працоўныя пяройдуць да масавых выступленняў пратэсту.

Аляксандр Еўдакімчык паведаміў, што прафсаюз БПАСМ накіраваў у Мінскі гарвыканкам заяўку на правядзенне пікетавання будынка Мінпрама.

**Валянціна МЕНШЫКАВА.**

**Умеем, если захотим**

## Триумфальное белье

*Как бы жилось сегодня акционерному обществу "Милавица", не случись в августе прошлого года экономический кризис в России? Судя по тому, какими темпами развивалось предприятие, очень даже неплохо. Однако капризы российской экономики стали главным виновником сегодняшних проблем белорусского предприятия.*

Группе журналистов, побывавшей на днях в цехах "Милавицы", о нынешнем положении на предприятии рассказали три женщины-директора: генеральный — Зинаида Валеха, технический — Галина Лукашенко и директор по экономике — Наталья Гайдученко.

В общем-то в последние годы "Милавице" удавалось наращивать выпуск продукции и, что особенно важно, реализовывать свой товар за пределами Беларуси за валюту. В прошлом году объем экспорта составил 18 миллионов долларов, в 1997-м — 22 миллиона долларов. Эти суммы значительны даже для большого предприятия, не говоря уже о "Милавице", где трудится 2 тысячи 300 человек.

С чего складывается успех "Милавицы"? Прежде всего это качество выпускаемой продукции, половину которой легко удается реализовывать за пределами Беларуси. Покупая импортное сырье и внедряя новые технологии, "Милавица" шила и шьет такое женское белье, которое не уступает по качеству импортному. География поставок бюстгалтеров, трусиков, грации и другой интимной прелести женского гардероба от "Милавицы" широка. Нижнее белье белорусского производства продается в Литве, Югославии, Словении, Арабских Эмиратах, Израиле. Но самый большой рынок сбыта "Милавицы" за границей — это Россия. Соседняя держава приобретает до 95 процентов экспортируемой предприятием продукции. До 17 августа прошлого года такая организация работы устраивала белорусское акционерное общество, но после кризиса руководство "Милавицы" решило пересмотреть подходы к реализации своей продукции. "Сегодня мы понимаем, что нельзя быть завязанным на одном рынке. — говорит Наталья Гайдученко. — Российский кризис показал нам, что это может привести к большим потрясениям".

Конечно, завоевать сегодня западный рынок очень сложно, практически невозможно. Но потихонечку "Милавица" все ярче заявляет там о себе. Вот и совсем недавно белорусские создатели нижнего белья приняли участие в выставке "Салон белья" в Париже, где представили около 300 своих моделей. Две работы наших художников были отмечены дипломами журнала "Мадам Фигаро". Как правило, журналисты этого французского издания отмечают только несколько лучших работ. После успеха в Париже совсем недавно в Минске велись переговоры с французской стороной о поставках продукции "Милавицы" в страну —законодательницу моды.

Сегодня на "Милавице" шьется белье известной немецкой фирмы "Триумф". Так что, приобретая "триумфальное" нижнее белье, мы можем купить бюстик, сшитый на "Милавице". И никогда не догадаемся, потому что сшит он безукоризненно. "Конечно, выгоднее продавать свою продукцию, а в данном случае мы экспортируем труд, — поясняет технический директор Галина Лукашенко. — Но это лучше, чем ничего. Но в таком сотрудничестве есть и свои плюсы. Мы учимся у немцев, осваиваем новые технологии. Все, чему мы научились на "Триумфе", стараемся внедрить у себя на производстве. И все же главной задачей для "Милавицы" остается восстановление покупательского рынка России. Ведь самый большой доход предприятие получало, реализовывая продукцию именно в этой стране".

Какие еще трудности стали сегодня для "Милавицы" валуном на широкой дороге почти безоблачной жизни?

Швейное предприятие "Милавица" было основано в 1929 году. Правда, раньше оно называлось по-другому. И швейная фабрика имени Фрунзе, и Минское производственное швейное объединение "Комсомолка". И только в 1991 году стало именоваться "Милавицей". Помимо благозвучного имени у предприятия появился и новый хозяин. "Милавица" была преобразована в акционерное общество, и все работники предприятия стали его акционерами. С тех пор "Милавица" работала, не рассчитывая на чью-либо помощь, на все зарабатывала сама: на реконструкцию и ремонт здания, на первоклассное итальянское и немецкое оборудование, на импортное сырье, на заработную плату сотрудникам (к слову, средняя зарплата за февраль составила на предприятии 14 миллионов), на строительство и частичное финансирование жилых домов. "Сегодня для поддержания предприятия нужны инвестиции, — подчеркнула Наталья Гайдученко. — Даже небольшая сумма — 2—3 миллиона долларов — даст новый толчок к развитию предприятия." Но, похоже, государство не особо стремится "поделиться" деньгами с общем-то благополучным предприятием.

Финансово-экономические условия, в которых приходится сегодня работать "Милавице", сводят на нет все старания руководства. Прежде всего — это налоговая политика государства. Если сравнить, например, условия работы белорусских создателей белья и их конкурентов из Латвии, то получается такая картина. И "Милавица", и латвийские фирмы покупают ткани в Италии. Но когда наши производители привозят сырье в Беларусь, то платят таможенные пошлины от 5 до 25 процентов. Латыши в такой же ситуации не платят ничего, потому что у Латвии с западными странами подписаны соответствующие соглашения. И только из-за этого нюанса цена белья "Милавицы" возрастает на 8 процентов. А ведь есть еще налог на добавленную стоимость, который тоже закладывается в себестоимость продукции.

Существуют определенные сложности в закупке сырья. Наши власти требуют от отечественных производителей выполнения программы по импортозамещению. "Мы участвуем в этой программе, — поясняет Галина Лукашенко. — Сотрудничаем с Витебским и Могилевским шелковыми комбинатами, нашими трикотажными предприятиями. Но это еще далеко не тот уровень, которого уже сегодня достигла "Милавица", используя импортные полотна. Мы будем работать с белорусскими тканями. Но сегодня нельзя работать только на белорусском сырье, потому что мы не получим такого красивого конкурентоспособного белья, которое имеем сейчас".

И наконец, последний экономический ребус. 40 процентов заработанной валюты предприятие, как того требует государство, должно продавать в казну республики по заниженному курсу Нацбанка. И если от этой операции республика приобретает, то "Милавица" теряет.

И все же, говоря с журналистами, три руководителя — и Зинаида Валеха, и Галина Лукашенко, и Наталья Гайдученко — высказали мнение, что, несмотря на все трудности, их коллектив выстоит, оденет белорусских женщин в качественное белье и внесет свою лепту в экономику Беларуси.

**Мария ЭЙСМОНТ.**

## Беларуска-ўкраінскую граніцу паязды будуць перасякаць хутчэй

Пагадненне па забеспячэнні праходжання паяздоў з мінімальнымі па часе прыпынкамі на граніцы, захаванні грузаў, бяспецы руху падпісана начальнікам Беларускай чыгункі Віктарам Рахманько і намеснікам генеральнага дырэктара Дзяржаўнай адміністрацыі чыгуначнага транспарту Украіны Уладзімірам Алейнікам.

Як паведаміў на сустрэчы з журналістамі Уладзімір Алейнік, цяпер лакаматыўныя брыгады яго ведамства на законных падставах змогуць працаваць на тэрыторыі Беларусі. Такія ж правы атрымаюць і беларускія чыгуначнікі на ўкраінскай тэрыторыі.

Новы дакумент будзе садзейнічаць лепшаму абслугоўванню пасажыраў. Менш будзе перасадак, павялічыцца колькасць паяздоў, якія звязваюць пагранічныя вобласці. Дарэчы, гэты год аб'яўлены на Украіне годам сэрвісу на пасажырскіх перавозках.

**Андрэй ВАРАТНІКОЎ.**

Пр. Васілісы, Галіны, Фядоры, Віктара, Дзяніса, Купрыяна, Клаўдзія, Леаніда, Нікіфара, Паўла, Серафіма.
К. Пелагеі, Фелікса.

СУСВЕТНЫ МЕТЭАРАЛАГІЧНЫ ДЗЕНЬ

100 гадоў з дня нараджэння В. У. Галіны (па мужу Александроўская; 1899—1980), беларускай актрысы, народнай артысткі Беларусі.

САКАВІК
**23**
'99 АЎТОРАК

| ☉ | ☽ |
|---|---|
| Усход 6.04 | Перш. квадра |
| Заход 18.29 | 24 сакавіка |
| Даўж. дня 12.25 | Заход 2.06 |
| | Усход 10.34 |

## Місія АБСЕ ў Беларусі абвяргае інфармацыю аб тым, што яна падрыхтавала праект перамоў паміж апазіцыяй і прэзідэнтам па формуле "Чатыры плюс адзін"

Намеснік кіраўніка кансультацыйна-наглядальнай групы АБСЕ ў Мінску Ханспетэр Клайнер абверг інфармацыю пра тое, што гэтая група быццам бы падрыхтавала праект перамоў паміж апазіцыяй і прэзідэнтам па формуле "чатыры плюс адзін".

Даная інфармацыя з'явілася ў некаторых беларускіх СМІ са спасылкай на крыніцы ў Адміністрацыі прэзідэнта Беларусі. Паведамлялася, у прыватнасці, што, згодна з праектам, падрыхтаваным АБСЕ, за стол перамоў, з аднаго боку, павінны сесці старшыня Вярхоўнага Савета 13-га склікання Сямён Шарэцкі, старшыня Цэнтральнай камісіі па выбарах прэзідэнта Віктар Ганчар, два кандыдаты ў прэзідэнты — Міхаіл Чыгір і Зянон Пазьняк, з другога боку — кіраўнік дзяржавы Аляксандр Лукашэнка.

Разам з тым Ханспетэр Клайнер падкрэсліў, што намаганні місіі АБСЕ ў Мінску сапраўды накіраваныя на дыялог паміж афіцыйнымі ўладамі і апазіцыяй. Гэты дыялог, на думку кіраўніцтва місіі, павінен быць "істотным і канструктыўным".

Аднак прадстаўнікі АБСЕ ў Мінску ніколі не рыхтавалі прапаноў па канкрэтным фармаце перамоў і складзе іхніх удзельнікаў.

**Уладзімір ГЛОД, БелаПАН.**

## Праведзены вобыск у штаб-кватэры Магілёўскай абласной арганізацыі БНФ

У штаб-кватэры магілёўскай абласной арганізацыі Беларускага народнага фронту супрацоўнікі міліцыі правялі вобыск. Ён доўжыўся каля дзвюх гадзін, у гэты час памяшканне арганізацыі было ачэплена ўзброенымі супрацоўнікамі міліцыі; яшчэ каля дзесятка супрацоўнікаў АМАП, крымінальнага вышуку і міліцыі знаходзіліся ў офісе. Кіравала аперацыяй намеснік начальніка следчага аддзела Цэнтральнага РАУС Магілёва Наталля Караткевіч.

У ордэры на вобыск было прадпісана канфіскаваць усе матэрыялы, якія маюць дачыненне да выбараў прэзідэнта 16 мая 1999 года. У выніку чаго былі канфіскаваныя не толькі перадвыбарчыя плакаты і чыстыя падпісныя бланкі, але і рабочыя дакументы БНФ. Запоўненых падпісных лістоў, якія, відаць, у найбольшай ступені цікавілі тых, хто праводзіў вобыск, знойдзена не было.

**Генадзь БАРБАРЫЧ, БелаПАН.**



**Жыццё як яно ёсць**

## Людзі бягуць з калгаса хто куды...

Добры дзень, паважаныя!

Вялікі дзякуй Вам за адказ на маё пісьмо на старонках газеты. З вашай дапамогай у мяне з'яўляюцца новыя, пакуль што нябачныя сябры-аднадумцы. На ўсе лісты, якія яны даслалі, абавязкова адкажу.

Вас цікавіць — якое яно, жыццё ў нас на Палессі, у вясковай глыбінцы. Добра... Але спачатку крышачку аб сабе.

Мне 26 год, жанаты. Мы з жонкай аднадумцы, яна поўнасцю падзяляе мае погляды. Яшчэ ў мяне ёсць цуда-хлопчык. Мне турботна, як і многім бацькам, за будучыню сына. Не дай Божа, каб нашы дзеці расплачваліся ні за што сваёю крывёю ў новых "Афганістанах" суседняй Расіі, куды нас штурхаюць вельмі настойліва нашы ўлады. Таму і не магу маўчаць.

Пра нашы заробкі лепей памаўчаць, пра ААНаўскія 30 долараў на чалавека ў месяц і гаварыць няма чаго. На вёсцы — жабрацтва паглоўнае. І гэта — у цэнтры Еўропы, на скрыжаванні многіх міжнародных гандлёвых шляхоў. Сорам!

...На першым месцы па значэнні на вёсцы — праблема чакання і атрымання свайго мізэрнага заробку. Колькі ж бывае падманных сігналаў, што будуць выдаваць грошы! Народ хуценька бяжыць у кантору, а там — пуста... Толькі чутны людскія праклёны. Усім тады дастаецца! А калі, нарэшце, народ дачакаецца сваіх кроўных, то многіх ужо нічога не цікавіць у гэтым свеце — акрамя "зялёнага змея". І скора жанчыны дагоняць у гэтым мужчын, што вельмі і вельмі самотна.

На другім месцы па значэнні — атрыманне гуманітарнай дапамогі. Яе нам дасылаюць разы два на год з пераможанай намі Нямеччыны. Але тут зноў-такі ўлазіць гэты ненасытны да ахвяр "зялёны змей", які змушае многіх замежнае дабро ціхенька абменьваць на моцныя напоі. Некаторым свята аж на некалькі тыдняў! Зналі б пра гэта нашы нямецкія дабрадзеі... Але народ ім вельмі ўдзячны, дасылае лісты з просьбамі-заказамі на патрэбныя рэчы. Людзі мусяць не грэбаваць нават паношанай бялізнай, бо няма за што купіць. Куды ўжо ніжэй каціцца ў сваіх нястачах?

...А вось на трэцім месцы сярод таго, што займае вяскоўцаў, цяпер палітыка. Раней такога не было. Зараз проста кідаецца ў вочы людское расчараванне: трэба ж, так давяралі... Але яны пакуль як бы баяцца сабе ў гэтым прызнацца. Гіпноз дзяржаўных СМІ яшчэ працуе на карысць уладам. Многія нібы нечага чакаюць...

Цяпер перайду на празаічныя нашы будзённыя дробязі. Селянін стараецца, каб нічога дарма не прападала, нават, прабачце, свежы конскі памёт. Гараджаніну гэта наўздзіў, а ў нас і такое дабро нарасхват. Як толькі звіднее, бягуць кабеты на канюшню з кашамі. Бо належных кармоў, той жа мукі — няхват, дык іх замяняюць, чым могуць, у свінячым рацыёне. Чаго не прыдумаеш, калі паўсюль клін! Канешне, сала такога, як у палякаў, не нагадуеш на гэтым, але сёетое на касцях усё ж нарасце...

Самыя лепшыя спецыялісты бягуць з калгаса хто куды. Многія — на дрэваапрацоўчы цэх Прыпяцкага запаведніка, патранаж над якім цяпер трымае Адміністрацыя прэзідэнта. Рабочыя гэтага прадпрыемства засмучаюцца, што шмат магутных дубоў-прыгажуноў, якіх не кранулі пры царах і немцах, даводзіцца зараз валіць па загадзе зверху, пускаць на апрацоўку. Няўжо дзеля паркету ў асобных "замках" будзем знішчаць ушчэнт золата нашага Палесся? Лясныя волаты радавалі б яшчэ не адно пакаленне. Прырода нас пакарае!

Скажу чэсна: калі б не палескія цуда-лясы, дык нашым жыхарам было б вельмі і вельмі цяжка выжыць. У лясах столькі багацця, і на яго — вялікі попыт. Летам ідзе бойкі закуп лісічак, потым — чарніц, буякоў, брусніц, белых грыбоў і, нарэшце, журавін. Пра апошнія хочацца сказаць асобна: іх збіраюць у нас вельмі многа, і сабранае нярэдка гніе і гіне ў людзей, бо забаронены вываз гэтых ягад у замежжа.

А ёсць і іншая трывога: лес вычышчаецца амаль поўнасцю і з кожным годам бяднее, да таго ж і выразаюць яго бяздумна. Бяда! Яе яшчэ можна спыніць.

Надта турбуе тое, што жывём у Чарнобыльскай зоне, а наконт радыяцыйнай асветы ніякая работа з насельніцтвам амаль што не праводзіцца. Усё пушчана на самацёк. Быццам нічога не адбылося. А людзі сталі неяк раптоўна паміраць, дый не зусім старымі. Гэта і прадказвалі сур'ёзныя вучоныя адразу пасля катастрофы, раілі прыняць грунтоўныя меры.

І яшчэ. Нядаўна ездзіў у Смаленск, бачыў шмат цікавага. У электрычцы ад ст.Орша да Смаленска — сапраўдны аптовы рынак на калёсах. Народ удала абыходзіць дэкрэт прэзідэнта і вывозіць у Расію многа нашых адносна танных прадуктаў. А сялянства гіне з-за нізкіх закупачных цэн...

Усё, хопіць аб невясёлым. Наш народ працавіты, вынес на плячах з пекла вякоў сваю культуру. Не забываюць вяскоўцы песні ды казанні сваіх бацькоў і прадзедаў. І па-ранейшаму добрыя ў нас людзі, прыветныя, сардэчныя. Але... крыху наіўныя, чым і злоўжывае наша ўлада. Але зло заўжды караецца.

Лічу, у нас ёсць усё для барацьбы без зброі, перамагчы ў ёй на карысць нашай Беларусі — вялікае шчасце. Толькі патрэбна **дзейнічаць**!

Хачу звярнуцца праз любімую газету да тых, хто мае намер і адвагу прэтэндаваць на пасаду прэзідэнта краіны на маючых адбыцца ў маі выбарах. Арганізуйце ўсебеларускі мітынг у падтрымку прэзідэнцкіх выбараў. Звярніцеся да ўсіх свядомых грамадзян Беларусі з прапановай прыехаць у сталіцу і падтрымаць гэтую акцыю разам з жыхарамі горада. Хопіць маўчаць! Нас многа. Толькі мы пакуль што раз'яднаныя. А трэба злучыцца.

На гэтым усё. Бывайце здаровы!

Жыве Беларусь!

**Валерый КАРАМЯН, жыхар в.Азяраны Жыткавіцкага раёна.**

**Ад рэдакцыі.** *Дзякуй, Валерый, за змястоўны і шчыры ліст. Зычым табе, тваёй маладой сям'і, аднавяскоўцам і ўсім грамадзянам Беларусі здзяйснення ўсяго, аб чым сёння толькі марыцца.*

*Карыстаючыся нагодай, звяртаемся да нашых чытачоў: мы жадалі б часцей атрымоўваць лісты з вёскі з аповедамі аб тым, як і чым жыве беларуская глыбінка. Пішыце нам, шаноўныя!*

